Козик, Л.А. [Рецензия] / Л.А. Козик // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 8 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. - Минск: БГУ, 2013. – С. 265-268 – Рец. На кн.: В поисках новых путей. Власть и общество в СССР и странах Восточной Европы в 50-60-е гг. XX в. М.: Ин-т славяноведения РАН, 2011.

**В ПОИСКАХ НОВЫХ ПУТЕЙ. ВЛАСТЬ И ОБЩЕСТВО В СССР И СТРАНАХ ВОСТОЧНОЙ ЕВРОПЫ В 50—60-е гг. XX в.** М. : Институт славяноведения РАН, 2011. 796 с.

Праблема ўзаемаадносін грамадства і ўлады ва ўмовах таталітарнага (аўтарытарнага) ладу здаўна выклікала інтарэс гісторыкаў. Першапачаткова яе вывучалі на прыкладзе фашысцкай Германіі, а праз некаторы час звярнулі ўвагу на СССР і краіны «сацыялістычнага лагера». У адрозненне ад Заходняй Еўропы ў Расіі пытанне ўзаемаадносін улады і грамадства ў СССР пачалі вывучаць адносна нядаўна, але хутка яно набыло папулярнасць. Што датычыцца пасляваеннай гісторыі краін Усходняй Еўропы, то толькі ў апошні час у расійскай гістарыяграфіі сталі з'яўляцца публікацыі, у якіх закранаюцца розныя аспекты згаданай праблемы. Варта адзначыць, што існуюць пэўныя метадалагічныя цяжкасці пры вывучэнні ўзаемаадносін грамадства і ўлады, на якія накладаецца светапогляд даследчыка. Здараецца так, што ацэнка адных і тых жа фактаў рознымі навукоўцамі прыводзіць да супрацьлеглых высноў. Так, напрыклад, у савецкіх падручніках пісалі пра падтрымку камуністаў шырокімі слаямі насельніцтва, у той час як сучасныя нацыянальныя гісторыкі сцвярджаюць зваротнае. Існаванне на сённяшні дзень розных меркаванняў па гэтым пытанні падштурхоўвае даследчыкаў да новых пошукаў.

Свой ўнёсак у вывучэнне праблемы ўзаемаадносін улады і грамадства ў СССР і краінах Усходняй Еўропы ў 1940—1960-я гг. зрабілі ўдзельнікі навуковай канферэнцыі «Эвалюцыя грамадскіх настрояў у СССР і краінах Усходняй Еўропы ў кантэксце трансфармацыі палітычных рэжымаў (40—60-я гг. XX ст.)», якая прайшла ў Інстытуце славяназнаўства РАН у 2010 г. Вынікам яе працы стала разглядаемае навуковае выданне.

Структурна кніга складаецца з трох раздзелаў: «Імпульсы лібералізацыі ў СССР», «Грамадскія настроі ва Усходняй Еўропе ва ўмовах трансфармацыі палітычных рэжымаў» і «Творчая інтэлігенцыя ў пошуках новых арыенціраў».

«Савецкая» частка прадстаўлена артыкуламі, у якіх адлюстроўваецца эвалюцыя палітычнай сістэмы ў кантэксце змен грамадскіх настрояў у 1950—1960-я гг., станаўленне і развіццё «сталінскага антысемітызму», даецца характарыстыка часопіса «Новый мир» у 1950-я гг., аналіз вобразу партыйна-дзяржаўных лідараў у кінематографе.

Большая частка кнігі прысвечана разгляду сітуацыі ў цэнтральна-еўрапейскім рэгіёне, які меў пэўную спецыфіку ў пасляваенным развіцці. З аднаго боку, сацыялістычная мадэль развіцця была навязана краінам, якія апынуліся ў савецкай сферы ўплыву, а з другога — значная частка грамадства падтрымала заяўленыя камуністамі пераўтварэнні. На пытанне, чаму так адбылося, нельга даць адназначны адказ. У розных людзей і сацыяльных груп былі свае прычыны. У адных — магчымасць выращыць зямельнае пытанне, мець сацыяльную забяспечанасць, сацыяльны рост, удзельнічаць у кіраўніцтве вытворчасцю, у іншых — вера ў пабудову справядлівага грамадства. Праўда, застаецца адкрытым пытанне — на колькі далёка гатовы былі пайсці розныя сацыяльныя групы на шляху заяўленых у першыя пасляваенныя гады пераўтварэнняў. Калі ў 1945—1948 гг. сацыяльна-эканамічныя рэформы насілі абмежаваны характар, а існаванне рэальнай апазіцыі давала спадзяванні на тое, што краіна не пойдзе па савецкім шляху развіцця, то ўжо ў

1948 г. стала відавочным, што падобнага роду чаканні былі марнымі. У жыцці дзяржавы і людзей пачаўся новы этап, для якога былі характэрнымі палітычныя пераследаванні і працэсы, палітыка індустрыялізацыі і калектывізацыі. Сітуацыя ў некаторай ступені змянілася пасля смерці І. В. Сталіна і XX з'езда КПСС, калі ўслед за СССР у краінах сацыялістычнага блоку пачалася «адліга». Яе праявы ў Румыніі, Венгрыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Славакіі, Балгарыі, Албаніі аналізуюцца ў кнізе. Засяродзім увагу пераважна на славянскай «складаючай» зборніка.

Расійская даследчыца А. Ф. Наскова, прааналізавайшы грамадскую атмасферу ў Польшчы на мяжы 1940—1950-х гг., прыйшла да высновы, што ўзровень падтрымкі палякамі Польскай рабочай партыі (ППР; з 1948 г. — Польскай аб'яднанай рабочай партыі) быў высокім. Прычыны гэтага аўтар бачыць у мадэрнізацыйных працэсах, якія адбываліся ў краіне, стомленасці грамадства ад вайны і барацьбы з акупантамі, неабходнасці фізічнага выжывання. Яна пагаджаецца з меркаваннем польскай калегі К. Керстэн, што існаваўшыя ў гады вайны недавер і перадузятае стаўленне да ППР не перараслі ў масавае непрыняцце новай ўлады, прычынай чаго былі карэнныя пераўтварэнні і засваенне новых тэрыторый (с. 197). Больш таго, падкрэслівае Наскова, сацыяльна-эканамічная трансфармацыя, школьная рэформа і наданне грамадству свецкага характару стварылі перадумовы «для перамен у грамадскіх настроях на карысць улады» (с. 200).

Цікавымі падаюцца разважанні аўтара пра ўзаемаадносіны ўлады і інтэлігенцыі. Даследчыца зазначае двоеснасць пазіцыі апошняй: з аднаго боку, пераважна крытычнае стаўленне да перамен у грамадстве і краіне, а з другога — разуменне іх мадэрнізацыйнага характара. Стрыманасць у стасунках з камуністамі, на думку Насковай, выклікаў і той факт, што інтэлігенцыя, упэўненая ў сваёй гістарычнай місіі, выключнай ролі ў дачыненні народа і імкненні захаваць даваенны матэрыяльны статус і прэстыж, пасля вайны страціла свае пазіцыі, бо афіцыйна лідарам быў абвешчаны рабочы клас (с. 216—217). У заключэнні аўтар прыходзіць да высновы, што большая частка грамадства, нягледзячы на нарастанне расчаравання і незадаволенасці, па тых ці іншых прычынах падтрымала альбо прыстасавалася да палітычнага ладу, які ўсталяваўся ў Польшчы пасля вайны.

Шэраг закранутых А. Ф. Насковай праблем разглядаюцца больш падрабязна ў артыкулах В. Валабуева «Антысемітызм у ПНР праз прызму ўзаемаадносін улады і грамадства. 1948—1968 гг.» і «"Клуб Крывога кола" ў грамадска-культурным жыцці Польшчы». У першым аўтар аналізуе «яўрэйскае пытанне» ў кантэксце станаўлення новага ладу, грамадска-палітычны крызіс 1956 г. і абвастрэнне міжнацыянальных супярэчнасцей з наступнай нармалізацыяй сітуацыі і «вялацякучым антысемітызмам», які ў 1968 г. «выліваецца» ў антысіянісцкую кампанію на дзяржаўным узроўні. Цікавым і адначасова спрэчным з'яўляецца сцверджанне Валабуева, што раскол у сярэдзіне 1950-х гг. у ЦК ПАРП на «натолінцаў» і «пулавян» адбыўся па нацыянальнай, а не палітычнай прыкмеце. Увогуле спроба аўтара паглядзець на падзеі ў пасляваеннай Польшчы праз «яўрэйскую складаючую» прыводзіць да змены акцэнтаў у характарыстыцы палітычных працэсаў. Ацэньваючы ў цэлым згаданыя публікацыі даследчыка, можна адзначыць пэўныя супярэчнасці ў падачы матэрыялу і выкладанні некаторых падзей, што вынікае, на наш погляд, з абсалютнага даверу да крыніц.

Іншыя праблемы ў развіцці Польшчы закранулі А. В. Сямёнаў («Грамадскія настроі кашубаў у пасляваеннай Польшчы (1940—1960-я гг.)»), В. А. Хораў («Польская літаратура: разлік з мінулым ці пошук новых шляхоў?»), А. В. Пятроўская («Фарміраванне студэнцкага кантынгенту вну Балгарыі і Польшчы ў кантэксце «выхавання» новай інтэлігенцыі (канец 1940-х — 1950-я гг.)»). Цікавымі падаюцца разважанні В. А. Хорава пра развіццё польскай літаратуры ў сярэдзіне 1950-х — канцы 1960-х гг. (гэты перыяд ён лічыць перыядам выключнага пад'ёму ў развіцці гуманітарных навук, мастацтва і літаратуры). Аўтар адзначае важнасць дыскусіі аб разуменні рэалізму і сацыялістычнага рэ-

алізму, якая разгарнулася ў перыядычных выданнях у канцы 1950-х гг., фарміраванне праграмы «інтэлектуальнай літаратуры», узаконьванне літаратурнага эксперыменту. Пры гэтым ён падкрэслівае, што працэс абнаўлення літаратурнага жыцця пасля 1956 г. «працякаў складана і супярэчліва» (с. 611). Прычыну гэтага Хораў бачыць ў распачатай кіраўніцтвам краіны барацьбе з рэвізіянізмам.

Чэхаславацкі блок прадстаўлены артыкуламі Г. П. Мурашка («Уладная вертыкаль і эвалюцыя настоя думак у Чэхаславакіі ў 50-я гг. XX ст. (Па дакументах расійскіх архіваў)»), С. А. Карнеева («Ідэйна-палітычныя прыярытэты інтэлектуальнай эліты Славакіі як складаючая частка славацкага нацыянальнага пытання»), В. В. Мар'інай («Славакія пачатку 1960-х гадоў: рэабілітацыя так званых славацкіх буржуазных нацыяналістаў і славацкае пытанне»), Г. П. Мельнікава («Мастацтва і культурная ментальнасць чэшскага грамадства ў канцы 1950-х гадоў»), С. А. Шэрлаімавай («Ад танкаў да танкаў. Чэшскія пісьменнікі ў 1940—1960-я гады»), Л. Ф. Шырокавай («Славацкая літаратурная перыёдыка 1960-х гг. і яе роля ў фарміраванні ліберальных настрояў у грамадстве»).

Разглядаючы падзеі 1950-х гг. Г. П. Мурашка засяроджвае ўвагу на пераменах у палітычным жыцці Чэхаславакіі, вызначае фактары, якія ўплывалі на фарміраванне грамадскай думкі, вылучае і характарызуе чатыры цэнтры апазіцыйных настрояў і спосабы барацьбы з імі дзяржаўна-партыйных органаў. Аналізуючы стаўленне чэха-славацкага насельніцтва да выступленняў 1956 г., аўтар прыходзіць да высновы, што ўспрыманне падзей у Венгрыі як контррэвалюцыі, а ў Польшчы як працэса дэмакратызацыі «спрыяла захаванню адноснай устойлівасці палітычнай сітуацыі ў ЧСР на рубяжы 1956—1957 гг.» (с. 268—269).

У сваю чаргу С. А. Карнееў звяртае ўвагу на перамены ў славацкай эканоміцы, грамадскім і палітычным жыцці і адзначае іх уплыў на настрої інтэлектуалаў (у першую чаргу гаворка ідзе пра гісторыкаў і пісьменнікаў). Пэўным удакладненнем да яго матэрыялу выступае артыкул В. В. Мар'інай, дзе на фоне нацыянальных праблем разглядаецца працэс па справе славацкіх буржуазных нацыяналістаў і іх рэабілітацыя.

Перамены ва ўзаемаадносінах улады і творчай інтэлігенцыі пасля вайны і асаблівасці развіцця культуры на розных этапах пабудовы сацыялістычнага грамадства ў Чэхаславакіі разглядаюцца ў артыкулах Г. П. Мельнікава, С. А. Шэрлаімавай і Л. Ф. Шырокавай. Аўтары сыходзяцца ў меркаванні, што менавіта культура адыграла вялікую ролю ў фарміраванні новай грамадскай свядомасці і фактычна падрыхтавала насельніцтва да падзей «Пражскай вясны».

Праблемы развіцця паўднёваславянскіх краін закранаюцца ў працах Т. В. Валакіцінай («Пачатак балгарскай «адлігі» і грамадскія настроі ў краіне»), А. Л. Валевай («Апазіцыйныя настроі ў Балгарыі ў 1960-я гады»), Я. Калінавай («Інтэлігенцыя і ўлада ў Балгарыі: няпростыя ўзаемаадносіны (сярэдзіна 50-х — першая палова 60-х гг. XX ст.)», С. А. Раманенка («Савецкія людзі і югаславы. Спробы пераадолення ўзаемных прымхаў, стэрэатыпаў і ілюзій. 1953—1964 гг.»). У артыкулах прааналізаваны ўплыў XX з'езда КПСС і падзей у Венгрыі і Польшчы на ўнутрыпалітычнае развіццё і грамадскія настроі ў Балгарыі. Аўтары сыходзяцца ў меркаванні, што частка насельніцтва добра ўсведамляла несамастойнасць палітыкі балгарскага кіраўніцтва (с. 301), а спробы выказаць крытыку дзеянняў улады ці арганізаваць змову супраць яе (як, напрыклад, у выпадку групы Івана Тодарава-Гаруні, ідэалагічным падмуркам якой была сумесь мааізму і сталінізму) сутыкаліся з жорсткай рэакцыяй апошняй. Нягледзячы на існаванне ў грамадстве апазіцыйных настрояў, у краіне ў 1960-я гг. так і не склаўся дысідэнцкі рух. Барацьба пераважна шла ў межах БКП і датычылася прыхода да ўлады той ці іншай групоўкі, якая б у залежнасці ад свайго светапогляду вызначыла напрамак далейшага развіцця дзяржавы.

Вылучэнню агульных тэндэнцый у развіцці пасляваеннага грамадства краін Усходняй Еўропы прысвечаны артыкул Н. В. Каравіцыйнай «Масавыя перасяленні, каштоўнасці і настроі перыяду сацыялістычнай інду-

стрыялізацыі Усходняй Еўропы». Фактычна ён з’яўляецца падсумаваннем высноў аўтараў — удзельнікаў канферэнцыі.

Завяршае зборнік артыкул-разважанне і адначасова ўспаміны Л. Н. Будаговай пра ўплыў настрояў у грамадстве на самавызначэнне і лёс чалавека, а дакладней самой даследчыцы, якая стала з цягам часу вядомай савецкай, а потым расійскай багемісткай.

Падводзячы выснову, варта заўважыць, што прыведзены ў кнізе матэрыял выклікае вялікі інтарэс. У значнай ступені гэта звязана з высокай ступеняй яго навізны і адначасова з імкненнем аўтараў разабрацца ў няпростых узаемаадносінах улады і творчай інтэлігенцыі, вылучыць прычыны (не)супрацоўніцтва розных слаёў насельніцтва з пасляваеннай уладай і механізмы ўплыву на мастацкае асяроддзе. Улічваючы той факт, што на шматлікія пытанні немагчыма даць адказ у дапамогай архіўных дакументаў, можна гаварыць пра вялікую ролю псіхалогіі ў разуменні пазіцый той ці іншай сацыяльнай групы. Такім чынам, закранутыя падчас канферэнцыі праблемы даюць магчымасць для далейшых навуковых пошукаў і высноў.

**Л. А. Козік,** дацэнт кафедры гісторыі паўднёвых і заходніх славян БДУ, кандыдат гістарычных навук